


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

ЛІПЕНЬ 2013 г. № 6 (38)

## КАЛІ Ў БЯЛЫНІЧАХ БУДЗЕ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА?

**Вось ужо амаль паўтара гады ў Бялыніцкім раёне няма старшыні раённага Савета дэпутатаў. Шэраговыя бялынічане адсутнасці кіраўніка прадстаўнічай улады ў раёне нават і не заўважаюць, ну а прадстаўнікі чынавенства і дэпутацкага корпуса ў неафіцыйных гутарках кажуць, што і сам Савет, і яго старшыня ў нашай краіне наогул не патрэбны, бо фактычна нічога не вырашаюць.**




Наконт таго, што Саветы дэпутатаў у нашай краіне даўно ўжо ператварыліся у рудыментарны прыдатак да разнастайных выканкамаў розных узроўняў, я таксама цалкам згодзен. Дэпутаты раённых і сельскіх Саветаў у нас “выбіраюцца” толькі для таго, каб паказаць, што мы жывём усё ж у дэмакратычнай краіне, улада ў якой належыць народу. Праўду, і сам беларускі народ, і яго адданыя слугі – чыноўнікі, выдатна ведаюць, каму на сам рэч належыць уся ўлада ў Беларусі…

Аднак усё ж неяк нязручна становіцца, калі знаёмыя прадстаўнікі “вертыкалі” з іншых раёнаў Магілёўскай вобласці пачынаюць “прыкалвацца”, маўляў, што ў вас за раён, без старшыні Савета паўтары гады жывеце, няма ў вас савецкай улады. Не патлумачыш жа ім, што месца на ўсялякі пажарны выпадак трымаюць для некаторых першых асобаў Бялыніцкага райвыканкама, а то кагосьці пасады могуць пазбавіць, а камусьці да пенсіі зусім няшмат засталося…

*(Заканчэнне на стар. 6)*

## НА МАЛОЙ РАДЗІМЕ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА ЗНАЧНА ВЫРАС УЗРОВЕНЬ ЭКАНАМІЧНАЙ ЗЛАЧЫННАСЦІ

**За пяць месяцаў 2013 года ў Шклоўскім раёне значна вырас узровень злачыннасці. Па выніках аператыўна-службовай дзейнасці за гэты перыяд адбыўся рост агульнай колькасці зарэгістраваных злачынстваў па ўсіх лініях з 152 да 212, паведаміў у раённай газеце “Ударны фронт” начальнік Шклоўскага РАУС Аляксандр Піменаў. Згодна палкоўніка Піменава, узровень агульнай злачыннасці ўзрос у асноўным за лік павелічэння колькасці выяўленых эканамічных злачынстваў.**

За пяць месяцаў на тэрыторыі Шклова зарэгістравана 118 злачынстваў, у тым ліку 29 – па лініі крымінальнага вышуку. У сельскай мясцовасці - адпаведна 94 і 76 злачынстваў. Найбольшая колькасць злачынстваў здзейснена на тэрыторыі Гарадзішчанскага і Каменна-Лаўскага сельсаветаў.

Асабліва вырасла за апошні час на малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі колькасць эканамічных злачынстваў і злачынстваў карупцыйнай накіраванасці. Па лініі барацьбы з эканамічнымі злачынствамі за пяць месяцаў 2013 года зарэгістравана 63 злачынства, з якіх 40 фактаў хабарніцтва, 7 крадзяжоў шляхам злоўжывання службовым становішчам, 15 фактаў службовай падробкі і 1 фальшываманецтва, якое да гэтага часу застаецца

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## В БЕЛЫНИЧАХ ВОРУЮТ КОФЕ

20 июня Белыничским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. 206 ч. 2 УК (Грабеж) по отношению администрации Белыничского РАЙПО о том, что 19 июня около 16-53 двое неизвестных в торговом зале магазина по ул. Советской открыто похитили 4 банки кофе, общей стоимостью 368 000 руб. ОУР, ЭКО установлено, что преступление совершили ранее судимые жители г. Борисова 1975 г.р. и 1974 г.р. Часть похищенного изъята.

## А В КУНЦАХ ЛЮБЯТ САМОГОН

21 июня в 12-00 в лесном массиве вблизи д. Кунцы Белыничского района ООПП, ГАИ обнаружено и изъято четыре емкости с 800 л браги.

## ЭКС-ДИРЕКТОР ОАО «МОГИЛЁВДРЕВ» ЗА РЕШЁТКОЙ

Ему инкриминируется 5 преступлений, 11 эпизодов нанесения вреда предприятию, 9 эпизодов хищения продукции и факты служебного подлога.

Как выяснило следствие, на протяжении года предприимчивый руководитель подписывал «липовые» документы, благодаря которым деньги списывались со счетов предприятия. Например, акт о вводе новой линии деревообработки. Это обошлось ОАО «Могилёвдрев» почти в 30 тысяч евро. Всего нанесен ущерб предприятию на сумму почти 500 миллионов рублей.

Уголовное дело передано в прокуратуру для направления в суд.

## НА МАЛОЙ РАДЗІМЕ АЛЯКСАНДРА РЫГОРАВІЧА ЗНАЧНА ВЫРАС УЗРОВЕНЬ ЭКАНАМІЧНАЙ ЗЛАЧЫННАСЦІ




(Заканч. Пачатак на стар. 1)

нераскрытым. 47 з выяўленых у Шклоўскім раёне злачынстваў адносяцца да ліку карупцыйных, 24 – да катэгорыі цяжкіх.

Нагадаем, што апошнім часам Шклоўскі раён скалынае цэлы шэраг гучных карупцыйных злачынстваў. Не так даўно за злачынства карупцыйнай скіраванасці былі затрыманы былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання М.

Згодна інфармацыі журналістаў незалежнай газеты “Рэгіён”, у бліжэйшы час асноўнай задачай для супрацоўнікаў міліцыі Шклоўскага раёна будзе з’яўляецца забеспячэнне бяспекі на свяце “Купалле ў Александрыі” на пачатку ліпеня гэтага года. Журналісты газеты выказваюць спадзяванне, што гэта не адаб’ецца на далейшым росце злачыннасці на малой радзіме кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.

Нагадаем таксама, што менавіта Шклоўскі раён з’яўляецца кузняй кіруючых кадраў у нашай краіне. Многія высокія чыноўнікі атрымалі свае цяперашнія пасады пасля працы на Шклоўшчыне…

*Іван Барысаў.*

## ЗАДЕРЖАН АДВОКАТ, ДАВШИЙ ВЗЯТКУ ЗАМПРЕДУ СУДА ОКТЯБРЬСКОГО РАЙОНА МОГИЛЕВА



**Адвокат юридической консультации Октябрьского района Могилева Анатолий Гомонов задержан сотрудниками КГБ при даче взятки судье.**

Ранее сообщалось, что 20 июня по подозрению в получении взятки был задержан заместитель председателя суда Октябрьского района Могилева Магомед Умаров.

Согласно сообщению центра информации и общественных связей КГБ, незаконное денежное вознаграждение в размере 2700 долларов было получено Умаровым от адвоката юридической консультации Октябрьского района Могилева Анатолия Гоманова за вынесение положительного решения по уголовному делу в отношении подзащитной и минимизацию возможного наказания.

«В отношении М.Умарова председателем КГБ Республики Беларусь возбуждено уголовное дело по ч. 3 ст. 430 (получение взятки лицом, занимающим ответственное положение) УК Республики Беларусь. В тот же день был задержан Гомонов, в отношении которого органом дознания управления КГБ Республики Беларусь по Могилевской области возбуждено уголовное дело по ч. 1 ст. 431 (дача взятки) УК Республики Беларусь», — говорится в сообщении КГБ.

И судья, и адвокат находятся под стражей, сообщает БелаПАН.

# У ВЫКАНКАМАХ І МІНІСТЭРСТВАХ СКАРАЧАЮЦЬ "МЁРТВЫЯ ДУШЫ"

**"Мы стараліся па магчымасці скараціць… вакансіі".**

"Аб'ядноўваюць аддзел культуры, ідэалогіі, фізкультуры… Але колькасць тая ж застаецца людзей, хто будзе начальнікам, хто намеснікам. Будзе ўсё адно ўпраўленне", — спрабуюць разабрацца з аптымізацыяй у Оршы.

А вось ў Бялыніцкім райвыканкаме па-свойму разумеюць і абяцанае падвышэнне заробкаў з-за скарачэння. Спецыяліст аддзелу моладзі працавала начальнікам, а зараз дзяўчыну пераводзяць спецыялістам у аддзел адукацыі-(начальнікам аддзела моладзі ў Бялыніцкім райвыканкаме працуе Наталля Саланенка –з. р.) Пытаюся, калі падымуць заробак, нечакана чую, што з грашыма будзе той яшчэ фокус.

"Атрымлівала 3,2 мільёна начальнікам аддзелу. А буду спецыялістам атрымліваць 2,5 мільёна. Пасля падвышэння мо як раз да 3,2 мільёна дацягну ізноў. Аптымістычна ўсё ўспрымаем, а што? Хіба ад нас нешта залежыць?" — перапытвае начальнік аддзелу моладзі Бялыніцкага райвыканкама.

Тэлефаную ў Гомельскі і Магілёўскі аблвыканкамы, Міністэрства культуры — паўсюль чую, што замест чыноўнікаў скарачаюць… пустыя пасады і пенсіянераў.

"Мы стараліся па магчымасці скараціць… вакансіі", — кажуць, напрыклад, Еўрарадыё ў Мінкульце. Скарачэнне тут ужо адбылося, і, паводле слоў супрацоўнікаў, не бязбольна: замест 108 чалавек тут цяпер працуе толькі 80! Згодна з загадам, належала скараціць дэпартамент па кінематаграфіі. Але…

"…але мы ж не можам без кіно застацца! Таму загадам было створана ўпраўленне па кінематаграфіі. Там меней людзей будзе, але ўпраўленне ёсць", — адрэдагавалі аптымізацыю ў Мінкульце.




Пра дадатковую нагрузку на сваіх людзей кажуць у знакамітым Ельскім райвыканкаме. Тут машын больш не купляюць — проста скарачаюць сем чалавек:

"Гарадок маленькі, месцаў працоўных няшмат. Канечне, гэта непрыемна. Але гэта жыццё і трэба разумець, што нельга прапрацаваць на адным месцы да пенсіі".

Мінбудархітэктуры аптымізавалася яшчэ ў мінулым годзе, кажуць, што без скандалаў.

"Стараліся прыбраць пасады, якія непатрэбныя, пенсіянеры, калі яны хацелі, пайшлі на пенсію", — кажуць у міністэрстве. Замест 138 чалавек тут будзе працаваць 103. Але гэта ўсё афіцыйна, а вось па-за афіцыйнымі размовамі адзін з апытаных Еўрарадыё чыноўнікаў прызнае ўсё гэтае скарачэнне ідыятызмам.

"Перакладанне грошай з адной кішэні ў іншую, усе людзі застануцца на месцах. Зверху далі каманду, а выканаўцы ў адказ: "Ёсць!".

***Тамара Савіч, "Еўрарадыё".***

## СУПРАЦОЎНІКІ МІЛІЦЫІ ПАБІЛІ ЖЫХАРА КРЫЧАВА

Па крымінальнай справе аб збіцці затрыманага у якасці падазраваных праходзяць тры супрацоўнікі Крычаўскага РАУС.

Адзін з падазраваных, оперупаўнаважаны Крычаўскага РАУС С, зараз знаходзіцца пад арыштам у Магілёве, яму прад'яўлена абвінавачванне па арт. 426 ч. 3 Крымінальнага кодэкса РБ (перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў).

Па словах журналістаў незалежнай крычаўскай газеты "Вольны горад", збітага грамадзяніна затрымалі ў снежні 2012 года, ён праходзіў у якасці падазраванага ў крадзяжы у Крычаўскім УКПП "Камунальнік". Супрацоўнікі міліцыі прымянілі меры фізічнага ўздзеяння к падазраванаму,у выніку гэтага ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Пасля вызвалення грамадзянін звярнуўся з заявай у Крычаўскі міжрайаддзел КДБ.

Згодна інфармацыі журналістаў "Вольнага горада", у бліжэйшы час будзе адхілены ад пасады начальнік Крычаўскага РАУС Вадзім Кавалёў. На яго месца плануюць прызначыць падпалкоўніка міліцыі Сяргея Далжанкова, які зараз працуе першым намеснікам начальніка Чэрыкаўскага РАУС.

***Ірына Беганкіна.***

# СТЕРТАЯ ГРАНЬ

**Заявление президента о том, что «…как и с учителей, так и с врачей будет железный спрос…» вполне предсказуемо. Его следовало ожидать. В бюджете Беларуси, которая, как Паниковский, бродит по странам и континентам с настойчивой просьбой «Дай миллион!», денег не было, нет и не предвидится. Режиму остается лишь пресекать робкие всхлипывания о низкой зарплате угрозами «завинтить гайки».**



*Сергей Антонов*

Причем единица измерения эффективности придумана почти для всех категорий трудящихся. Рабочие заводов будут в шоколаде, если начнут выпускать конкурентоспособную продукцию, колхозники станут процветать, если вырастят и выкормят, врачи и учителя – за счет внедрения платных услуг. Не можете? Не способны? Тогда, черт бы вас побрал, о каком повышении зарплат треплетесь?

Объективные причины, по которым ни произвести, ни выучить, ни вылечить невозможно, правительство в расчет не берет. Еще бы! Ведь именно для легионов чиновников единица измерения эффективности их «труда» пока не придумана. И если уж говорить о работе на результат, то как раз у любимцев Лукашенко он нулевой. За двадцать полновесных лет никаких существенных сдвигов ни в промышленности, ни в сельском хозяйстве, ни в других сферах не произошло. Зато «никакая» зарплата бюрократов повышается регулярно, а надбавки за различного рода «ответственности» измеряются уже сотнями процентов.

Картинка белорусской действительности, по мнению диктатуры, такова: плохие учителя, неумелые врачи, ленивые рабочие, пьянчуги-крестьяне с одной стороны. С другой - расчудесные министры, директора и председатели, с которых разве что иконы писать.

Эти ребята в курсе того, что происходит у производственников и бюджетников на самом деле. Их вполне устраивает повсеместная вакханалия лжи.

Учителям предоставлен «широкий» выбор. Они могут повышать свое материальное благосостояние за счет организации платных кружков и курсов, могут их не организовывать и просто вносить денежки из своего кармана, а кружки и курсы будут существовать лишь в отчетах. Имеют даже полное право признать свою некомпетентность, не заморачиваться с «внебюджеткой» и лишиться соответствующей премии. Выбирай – не хочу.

Довелось беседовать с директором одного из деревенских клубов. Женщина раскрыла некоторые из тайн «внебюджетного» самообмана. В ее клуб никто не ходит. Молодежи в деревне почти нет, да и ее пряником не заманишь на дискотеки и в кинозал. Оборудование там уж очень древнее. Что касается стариков, то они предпочитают всем культурно-массовым мероприятиям сидение у телевизора.

Выход из положения прост, как все гениальное. Директор клуба на пару с библиотекарем сами скупают билеты на дискотеки и в кино. Смысл? Во-первых, трудовой стаж, во-вторых, премия за мнимое веселье селян на дискотеках окупает затраты на билеты.

У врачей все несколько сложнее. Режим ведь никак не определится: то ли продолжать петь арию о достижении в виде бесплатного медицинского обслуживания, то ли послать это достижение куда подальше и окончательно перевести медицину на рыночные рельсы. Эта половинчатость приводит лишь к тому, что для создания тарифов на платные услуги приходится содержать непомерное число бухгалтеров, которые не успевают менять свои расценки вслед за стремительным ростом цен.

Собственно же медработники, независимо от своей квалификации и талантов, вынуждены брести по колее, в которую их намеренно загнали.

Требовать работу на результат президенту можно будет лишь тогда, когда он наконец-таки добьется собственных результатов. На сегодня они более чем скромные: тотальная изоляция страны, лидерство по росту цен, миграция самых квалифицированных работников и попытки сохранить хорошую мину при плохой игре, над которыми хохочет весь мир.

Еще в советские времена, в одной из своих радиопередач Сева Новгородцев заметил:

- Стирается грань между городом и деревней, между умственным трудом и физическим, между правдой и ложью…

Приходится с грустью констатировать: последняя грань в современной Беларуси уж точно стерта.

***Сергей Антонов.***

# НА ПЕНСИЮ? НЕТ – В ПРАВИТЕЛЬСТВО!

**Еще чуть-чуть и в стране льна, картофеля и Лукашенко треть населения достигнет пенсионного возраста. Это не так страшно для государств с развитой экономикой и дееспособным демократическим обществом, но почти катастрофично для авторитарных режимов с недоразвитой системой хозяйствования.**

Диктаторы, это, как правило, люди малообразованные, видящие мир через призму своего убогого интеллекта и громадных амбиций. Они почти всегда принимают простые и понятные большинству населения решения. Поэтому, в начале своего правления, пользуются популярностью, постепенно привыкая к «народной любви» и собственной непогрешимости во всех принимаемых решениях.

Окружение вождя год за годом убеждает его в почти божественной избранности и мессианстве. Диктатор, уверовав в свою гениальность, перестает слышать не только народ, но и свое ближайшее окружение, которое, как правило, умом не блещет, зато говорит приятные вещи.

Почему сейчас в руководстве страны появился значительный слой чиновников высокого уровня в почтенном возрасте? Во-первых, диктатор всегда должен быть в своих собственных глазах и в общественном мнении – выше, сильнее, умнее, моложе своих подчиненных. Поэтому предпенсионного возраста Лукашенко и окружает себя весьма пожилыми людьми.

Премьеру Мясниковичу, к примеру, в этом году исполняется 63 года, его заму Прокоповичу 70 лет. Главе Совета Республики Рубинову было в апреле 74, а председателю ПП НС Андрейченко – 64 годка стукнуло. Перешагнул 70-летний рубеж Руководитель Верховного суда Сукало, а госсекретарь СБ Мальцев уже четыре года мог бы получать пенсию, причем на пару с председателем Нацбанка Надеждой Ермаковой. На седьмой десяток пошел и председатель КГК Якобсон. Из высших должностных лиц, пожалуй, только глава администрации




Кобяков, да генпрокурор Конюк относительно молоды, они 1960 года рождения, да нынешний управделами Президента генерал Шейман справит в этом году свое 55-летие.

Однако, очень сомнительно, что из этого списка кто-нибудь попадет под объявленное Лукашенко сокращение госслужащих. По старой, еще советского времени, министерской стратегии, при сокращении кадров всегда в первую очередь увольняют неугодных и строптивых, а потом, у умного министра всегда есть вакансии, особенно на нижнем уровне: всякие там технические, вспомогательные и иные малооплачиваемые должности, куда и так никто не шел. Вот про них-то и доложат на «самый верх», как про сокращенных, добавив пару-тройку специалистов среднего звена пенсионного возраста.

Я вовсе не против работающих пенсионеров. Только вот средняя продолжительность жизни в РБ среди мужчин, из-за Чернобыля, низкого уровня жизни, пьянства и прочих болезней едва достигает пенсионного возраста. Понятно, что высшие чиновники живут в гораздо более комфортных условиях, чем простые люди, едят качественные продукты, получают хорошую медпомощь и дорогие лекарства… Да только морально ли, красивым и ухоженным старикам красоваться на телеэкранах перед людьми для которых 60 лет – рубеж жизни?

Не будет у страны перспективы, если с каждым годом правительство будет все старше и старше. Если лидеры оппозиционных партий и движений будут стареть вместе с долгоиграющим президентом, уподобляясь ему во всем. Наша страна застыла в ожидании какого-то чуда, но его не будет. Да, у стариков есть опыт и в условиях отупляющей компьютаризации они, порой, оказываются креативней молодых, но это исключение из правил.

Пассионарность этноса в его молодом поколении. Они должны брать инициативу на себя, пользуясь советами своих отцов. Только не должны старики доводить своих детей до пенсии, находясь у власти до собственной смерти. Дорогу молодым, дедушки и бабушки!

*“Белорусский трибунал”.*

# КАЛІ Ў БЯЛЫНІЧАХ БУДЗЕ САВЕЦКАЯ ЎЛАДА?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

Праўда, зараз і я навучыўся адбрэхвацца – кажу, што слаўны вопыт Бялыніцкага раёна ўжо пераймае ўся Магілёўская вобласць. Пасля таго, як Панцюхова абралі ў “парламент”, вось ужо дзевяць месяцаў Магілёўшчына жыве без старшыні аблсавета. І нічога, таксама ніхто яго адсутнасці не заўважыў, ганаровы грамадзянін Бялыніцкага раёна Раіса Лычкоўская выдатна спраўляецца кіраваць банкам і аблсаветам па сумяшчальніцтве. Галоўнае ж што – каб грошы былі. Ну адкуль яны ў нашых Саветаў, бюджэты ж яны толькі зацвярджаюць, ды ўносяць розныя папраўкі з падачы выканкамаў, самі ж грошы ў вочы ня бачаць. Ды й навошта нашым Саветам грошы, калі яны даўно ўжо ператварыліся у незразумелы прыдатак выканкамаў, іх дэпутаты толькі аднагалосна падтрымліваюць любую, самую бязглуздую, прапанову выканаўчай улады.

А як тут не зацвердзіш, калі абсалютная большасць дэпутатаў у тым жа Бялыніцкім райсавеце – начальнікі ды чыноўнікі розных рангаў. Вышэйстаячаму кіраўніцтву ж дагаджаць патрэбна, ну а перад выбаршчыкамі можна не справаздачыцца, што ад іх залежыць. Не паверыце, шаноўныя чытачы, аднак практычна ўсе нашы чыноўнікі-дэпутаты выдатна ведаюць, як у нас праходзяць выбары, і ад каго залежыць “выбар народа”. У прыватных гутарках за “чаркай чаю” яны столькі цікавага на гэты конт распавядаюць…

Магчыма, таму і аўтарытэт зараз у Саветаў “ніжэй за калена” (гэта не я сказаў, а самі ведаеце хто). Таму Лідзія Ярмошына і прапанавала ліквідаваць выбары дэпутатаў сельскіх Саветаў. І тут я з нязменнай галоўнай выбаршчыцай цалкам згодзен, бо гэтыя Саветы даўно ўжо ператварыліс у пародыю на мясцовую ўладу. Дарэчы, як іншыя Саветы больш вышэйшых узроўняў, якія ўжо даўно нічога не вырашаюць, як на Магілёўшчыне, так і ў краіне цалкам.




Ну а пасада старшыні райсавета чыноўнікамі разглядаецца як нейкая сінекура, дзе фактычна прызначаны кіраўнік дэпутатскага корпуса можа добра адпачыць, яшчэ і атрымліваючы за гэта вельмі добрую капейчыну. Каб старшыні райсаветаў канчаткова не ўпалі ў маразм ад бяздзеяння, ім звычайна даручаюць кантраляваць збор малака ды жывёлы ад насельніцтва ў раёне, ды яшчэ назіраць за падтрыманнем парадку ў сельсаветах.

Хаця, згодна дзеючага зараз у краіне заканадаўства, кіраўнікі прадстаўнічай улады ў раёнах да ўсіх гэтых пытанняў маюць прыкладна такія ж адносіны, як я да Месяца.

Хутка ў нашай краіне зноў будуць праходзіць “выбары” дэпутатаў мясцовых Саветаў. Процьма грошай будзе выкінута на тое, каб паказаць, што ў “квітнеючай Беларусі” сапраўды існуе народаўладдзе. Каму ж насамрэч патрэбныя гэтыя “выбары”, калі мясцовыя саветы ў нашай краіне даўно ўжо ператварыліся ў “фігавы лісток” пры існуючай уладнай вертыкалі, я асабіста не ведаю.

На мой погляд, патрэбна альбо надаць мясцовым Саветам рэальныя паўнамоцтвы і сапраўды праводзіць выбары, а не прыхаванае прызначэнне дэпутатаў, альбонагогул перастаць займацца глупствам і паказухай, і ліквідаваць непатрэбны дзеючай уладзе рудымент у выглядзе Саветаў, якія абсалютна нічога не вырашаюць.

Ну а зэканомленыя грошы лепш бы накіравалі на лячэнне хворых дзяцей, якім сапраўды патрэбна дапамога. У нашай “квітнеючай краіне” усе газеты і інтэрнэт-старонкі запоўнены аб’явамі з просьбамі дапамагчы бедным дзеткам у зборы грошай на іх лячэнне. Родная дзяржава на гэтых маленькіх дзетак грошай знайсці не можа, бо на бедненькіх чыноўнікаў і міліцыянераў (якіх у нас на душу насельніцтва намнога больш, чым яшчэ дзе-небудзь у Еўропе) не хапае.

Карысці для канкрэтных людзей было б нашмат болей, чым ад існуючых у Беларусі мясцовых Саветаў…

***Сяргей Семяновіч.***

PS. Калі некалькі год таму на апазіцыйны мітынг маладыя людзі вышлі пад транспарантам з знакамітым гістарычным лозунгам “Уся ўлада Саветам”, іх адразу ж затрымала міліцыя… Супрацоўнікі праваахоўных органаў добра ведаюць, каму павінна належыць уся ўлада ў нашай краіне…

# ПРАЦАЎНІКАМ ІЛЬНОЗАВОДУ ПРАПАНУЮЦЬ ПАПРАЦАВАЦЬ У ЦЫРУЛЬНЯХ

**У райцэнтры Круглае, што на Магілёўшчыне, закрываюць мясцовы ільнозавод. Першымі пад звальненьне падпалі больш за дваццаць працаўніц.**

Цяпер пагроза звальненьня паўстала перад інжынэрна-тэхнічным пэрсаналам ды мэханізатарамі, якіх ужо папярэдзілі, што працаваць яны будуць без дадатковых да заробку выплат. Жанчынам, якія працавалі з ільном, прапануюць стаць прадавачкамі й нават знайсьці сабе занятак у цырульнях. Раней прапаноўвалі езьдзіць на працу на Шклоўскі ільнозавод.

Пра тое, што ільнозавод закрываюць, стала вядома пры канцы траўня. Супраць гэтага намеру выступілі жанчыны, якія працавалі ў цэху з ільном. 25 траўня іх не пусьцілі на працоўныя месцы. Тры дні яны прыходзілі да прахадной і чакалі, пакуль начальства передумае. Урэшце іх адправілі ў адпачынак. Сёньня ён скончыўся, але завод так і не запрацаваў. У адміністрацыі прадпрыемства паведамілі, што цяпер адбываецца яго рэарганізацыя. Людзям прапануецца альбо працягнуць адпачынак яшчэ на месяц за свой кошт у сувязі з вытворчай неабходнасьцю, альбо звольніцца:

«Вытворчая неабходнасьць такая, што няма эканамічнага абгрунтаваньня існаваньня прадпрыемства», — зазначае супрацоўнік адміністрацыі.

Паводле суразмоўцы, доўг заводу складае 10 мільярдаў рублёў. Большая частка яго нарасла ад 2005 году з прычыны невысокай рэнтабэльнасьці. Акрамя таго, паводле супрацоўніка адміністрацыі, частку бюджэтных сродкаў, якія выдзяляліся прадпрыемству, проста скралі:

«Кіраўнік арганізацыі іх скраў, і цяпер ён у вышуку. Тры мільярды».

Некалі ў Круглым будавалі новы льнозавод. Цяпер новае разбураецца, а старое зачыняецца.

Пагутарыць з жанчынамі, якія вырашылі пакуль узяць адпачынак за свой кошт, але не звальняцца, не ўдалося. Сытуацыю пакуль яны не жадаюць камэнтаваць. Мужчыны-мэханізатары кажуць, што чарга звальненьня дойдзе і да іх:

«Яны во і да нас дабраліся. Расцэнкі, кажуць, парэжам, прэміяў ня будзе, кляснасьць плаціць ня будуць. Сілком звальняйцеся, сыходзьце, і ўсё. Нібыта мы на сябе не напрацоўваем. Дык гэта ж яны спынілі вытворчасьць, а ня мы. Дзеўкі ўчора заклікалі, што давайце будзем працаваць — новая траса пойдзе. Дзеўкі кажуць: што мы, тут па трыццаць гадоў адпрацавалі — і што, пойдзем цяпер на падсобныя працы?», — распавядае адзін з працаўнікоў.

Юрыст холдынгу «Магілёўабллён» пра прычыны закрыцьця Круглянскага льнозаводу казаць адмовілася, аднак заявіла:

«Там у раёне ёсьць вакантныя месцы, і людзі самі ня хочуць пераходзіць».

Звольненым з ільнозаводу прапануюць уладкавацца прадаўцамі, цырульнікамі, а таксама ў сельскай гаспадарцы — даяркамі. Адзінаму вытворчаму прадпрыемству ў райцэнтры, перасоўна-мэханізаванай калёне, патрабуюцца рознарабочыя.

Раней пісалі, што Круглянскі льнозавод мала таго, што нерэнтабэльны, але яшчэ і аварыйны. У адміністрацыі паведамілі, што дазволу на запуск заводу не дае санэпідэмстанцыя, Міністэрства надзвычайных сытуацыяў. Каб ліквідаваць аварыйнасьць цэху, неабходныя велізарныя ўкладаньні.

А як ставяцца жыхары райцэнтру да закрыцьця льнозаводу? Некалькі меркаваньняў:

Спадарыні: «Супраць. Людзям дзе працаваць тады? Акрамя гандлю, няма дзе. Прадаўцы патрабуюцца. Больш нідзе няма як зачапіцца».

Спадарыня: «Адмоўна, вядома ж. Гэта ўсё ж мінус раёну. Аб'ёмы вытворчасьці скарачаюцца. Раёну горш. Працоўных месцаў у нас мала».

Спадарыня: «Непажадана, вядома. Адно прадпрыемства было, і тое закрылі. Так і раён ліквідуюць».

На Круглянскім ільнозаводзе ў тым, што яго зьбіраюцца зачыніць, вінавацяць Шклоўскі льнозавод, якому нібыта нестае сыравіннай базы. Нястачу зьбіраюцца папоўніць ільном з Круглянскага раёну. Тут сёлета ім засеялі тысячы гектараў. Працаўнікі кажуць, што лён урадзіў, і калі ня будзе непагадзі, то сыравіна для льнозаводаў будзе высокай якасьці. Раней працаўнікам з Круглянскага льнозаводу прапаноўвалі езьдзіць у Шклоў на працу, аднак яны адмовіліся. Доўг, які набраўся ў прадпрыемства, яны гатовыя сплаціць, абы ўратаваць прадпрыемства ад закрыцьця. Пакуль жа працаўніцы праз суд дамагаюцца, каб ім выплацілі заробак за красавік і травень ды адпускныя.

***"Радыё "Свабода".***

# ЗА СЧЕТ ЧЕГО РАСТЕТ СРЕДНЯЯ ЗАРПЛАТА В БЕЛАРУСИ?

**Вместе с экономистами Борисом Желибо и Леонидом Заико корреспондент «Салідарнасці» разбиралась в формуле успеха белорусской экономики: почему, несмотря на уменьшение объема производства и большое количество выходных, зарплата у населения неуклонно растет?Белстат опубликовал данные о начисленной средней заработной плате за май. Согласно статистике, белорусы в мае стали богаче в среднем на 100 тыс. рублей (4,988 млн рублей). Откуда вдруг такие успехи белорусской экономики?**

## Леонид Заико: Сначала всенародная радость, в перспективе – инфляция и снижение доходов

– Это явление имеет скорее всего социально-политические корни, — считает Леонид Заико. – Дело в том, что зарплата у нас формируется неприлично, как и сама политика доходов. В прошлом году ВВП вырос где-то на 1,5%, заработная плата, причем реальная – на 21,8%. В промышленном секторе за пять последних месяцев наблюдается снижение активности и рост запасов, а зарплата чувствительно прирастает. Обычно это происходит в странах, где политики боятся недовольства широких масс. То есть, это вынужденная мера по удержанию социальной стабильности занятых наемных работников, несмотря на ухудшение общеэкономических показателей страны.

Среди последствий в краткосрочной перспективе экономист отмечает всенародную радость заработанным деньгам. Кроме того, такая финансовая политика рождает неверные стимулы и ориентиры для домашних хозяйств, которые неправильно соотносят свои результаты и получаемый доход, зачастую слишком оптимистично оценивая ситуацию.

– Но самое главное, двести лет назад экономист Давид Рикардо разработал и доказал теорию спирали, зависимости между заработной платой и ценами. Феномен спирали заключается в следующем: вслед за повышением зарплаты будут расти цены, потом на основании роста цен опять увеличатся зарплаты. И так до момента, пока инфляция не станет очень большой – в сотни процентов. Поэтому в долгосрочной перспективе это вызовет инфляцию и снижение доходов, — высказал свою точку зрения эксперт.




## Борис Желибо: Возможно повторение сценария 2011 года

— У нас получается макроэкономическая диспропорция — такой макроэкономический перекос: темп роста зарплаты постоянно в разы обгоняет темп роста производительности труда. В результате по-прежнему есть риск того, что мы можем к концу этого года или немного позже получить сценарий развития экономики 2011-го, когда у нас темпы роста рублевой массы в разы обгоняют рост ВВП. Денежные каналы переполняются рублями, и это подрывает стабильность белорусского рубля в его валютных курсах – к доллару, к евро и так далее.

По мнению эксперта, рост зарплат без учета темпов производительности и роста ВВП может привести к обвалу рубля и к резкой девальвации. Белорусская экономика таким образом постоянно находится в зоне риска. — Нужно быть скромнее в проведении денежно-кредитной политики – не увеличивать такими большими темпами рублевую денежную массу, — считает Борис Желибо.

***Алина Таряник***

### Цифры и факты

Средняя зарплата в мае – 4 988 338 рублей

Минимальная заработная плата – 1 395 000 рублей

Тарифная ставка первого разряда – 250 000 рублей

БПМ – 974 110 рублей

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 30.06.2013 г. у 09-00.